

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Аднаўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 10 (91). 4 — 10 сакавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 15 тыс. руб.

## С ПРАЗДНИКОМ 8 МАРТА, ДОРОГИЕ ЖЕНЩИНЫ!



*Мне понравилась улыбка этой симпатичной девушки. Познакомились: Людмила СИУХИНА — учительница истории Деревянчицкой школы. Фото Николая СУПРУНА*

## ЯК РАМЕСНІКІ СЛОНІМСКУЮ МІЛІЦЫЮ ШТУРМАВАЛІ

Пачатак 1950-х гадоў на Слонімшчыне быў неспакойны. Дзесяткі людзей, некаторыя ўзброеныя, знаходзіліся на нелегальным становішчы. Яны хаваліся, баючыся рэпрэсій з боку савецкіх уладаў. Актыўна тады дзейнічалі крымінальнікі, сярод якіх хапала "гастралёраў" з Расіі...

Аднак найбольш гучнай справай таго часу быў напад слонімскіх рамеснікаў на будынак міліцыі. Па адных звестках, гэта здарылася напрыканцы лета 1951 года, па іншых — 1953-га. І сёння ў гэтай справе яшчэ шмат "белых плямаў"... ***(Працяг на 3 стр.)***




*У гэтым будынку на Савецкай вуліцы, 19 у пачатку 50-х гадоў знаходзілася слонімская міліцыя*



**НОВОСТИ**

### Колхозы на грани банкротства

**В трудном экономическом положении находятся все сельские хозяйства Гродненской области.**

По данным областного управления сельского хозяйства, сумма их долгов на 1 февраля нынешнего года составила 5,8 триллиона рублей. Только 1,9 триллиона рублей составляет задолженность за государственные кредиты и займы. Задолженность по заработной плате составляет 398 миллиардов рублей, из них 59,7 миллиарда — задолженность за прошлый год.

Сегодня на грани банкротства в Гродненской области находится 70% сельских хозяйств; с прошлогодними долгами не рассчитались 28% хозяйств.

### Тревожные итоги

**Задание по производству товарной продукции и товаров народного потребления предприятиями Гродненской области полностью провалено.**

Об этом заявил председатель облисполкома Александр Дубко во время состоявшегося на днях совещания руководителей органов государственного управления области. Было отмечено, что выполнение заданий по производству товарной продукции в первом месяце нынешнего года составило к январю прошлого года 95%, товаров народного потребления — 96%.

### Не до шуток

**С 1 апреля 1999 года прекращается выпуск в обращение расчетных билетов Нацбанка Беларуси достоинством 100, 200 и 500 рублей.**

Такое решение Нацбанк принял в связи с нецелесообразностью их обращения.

После 1 апреля население может обменять расчетные билеты низких достоинств во всех учреждениях банков без всяких ограничений, а также использовать до 1 июня 1999 года во всех видах платежей. Субъекты хозяйствования сдают расчетные билеты достоинством 100, 200 и 500 рублей в обслуживающие их банки для зачисления на счета.

**БелаПАН**

**ФОТАРЭПАРТАЖ**

## БЫВАЙ, ЗІМА!





Слонімскі парк звычайна ажывае некалькі разоў на год. У асноўным, на розныя святы. Вось і ў нядзелю, 28 лютага, там было шматлюдна і весела. Тысячы слонімцаў прыйшлі ў парк, каб развітацца з зімой.

Хтосьці з сябрамі піў піва ці гарэлку, закусваў шашлыкамі, якія не паспявалі гатаваць там жа ў парку. Таму без чэргаў не абышлося нават у гэты святочны дзень.

Народ не сумаваў. Хлопцы падымалі гіры, здымалі са слупа бутэлькі з каньяком, перацягвалі канат. А вакол вогнішча веселілася дзятва, якая разам з дзедам Марозам і снягуркамі вадзіла карагоды і спявала песні.

Урачыстая частка свята скончылася пад музыку ваеннага аркестра. Некалькі пар станцавалі вальс... Развітанне з зімой не прынесла вялікіх клопатаў слонімскай міліцыі. Толькі ўвечары былі затрыманы чатыры чалавекі, якім прапанавалі "адпачыць" у медвыцвярэзніку. А ў Альбярціне, дзе таксама адзначалі свята, адбылася бойка. Сур'ёзна ніхто не пацярпеў, калі не лічыць, што некалькі хлопцаў атрымалі сінякі.

Такім ён быў, апошні дзень зімы.

**Сяргей ЁРШ, фота Мікалая СУПРУНА**
***(Працяг на 2 стр.)***

**ЗДАРЭННІ**

### Абакралі магазін

**Ноччу з суботы на нядзелю быў абрабаваны прадуктовы магазін у вёсцы Вераб'евічы Слонімскага раёна.**

Невядомыя зблі навясны замок і ўкралі гарэлку і цыгарэты.

### Бойка ў бары

**Нядаўна ў бары "Світанак", што на Школьнай вуліцы ў Слоніме, адбылася бойка.**

У выніку, аднаму слонімцу асколкамі бутэлькі выбіла вока.

### Злавілі меламана

**Слонімская міліцыя затрымала вучня адной з гарадскіх школ.**

Ён абвінавачваецца ў крадзяжы з ларка прыватнага прадпрымальніка, што знаходзіцца на рынку, двух магнітафонаў, узмацняльніка і 400 касет.

**Сяргей ЁРШ**

### Пазычыў машыну і... разбіў

**Жыхар Дзятлаўскага раёна А. пазычыў у сваёй знаёмай аўтамашыну "Форд", каб пакатацца разам з сябрамі.**

Едучы па дарозе Дзятлава — санаторый "Радон", непадалёку ад вёскі Курпішы, ён не справіўся з кіраваннем і ўрэзаўся ў дрэва. У выніку два пасажыры атрымалі траўмы і дастаўлены ў раённую бальніцу.

### На закуску — нажавая рана

**Ад рукі сужыцелькі ледзь не загінуў 40-гадовы жыхар Б. вёскі Дзеракі Дзятлаўскага раёна.**

Яны разам пілі гарэлку, потым пасварыліся, і сужыцелька парнула яго нажом. Пацярпелы суткі ў бальніцу не звяртаўся, думаючы, што абыдзецца. Аднак назаўтра вечарам у яго наступіў шок. Урачам усё ж удалося выратаваць яму жыццё.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**КУРСЫ ВАЛЮТ**

по состоянию на 02.03.99 г. (в тыс.руб.)

| Филиалы | USD Пок. | USD Прод. | DEM Пок. | DEM Прод. | RUR Пок. | RUR Прод. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Беларусбанк" | 270,0 | 275,0 | 150,0 | 154,0 | 11,5 | 12,0 |
| "Белагропромбанк" | 275,0 | – | 154,0 | – | 11,5 | 12,0 |
| "Приорбанк" | 310,0 | – | 170,0 | – | 12,0 | – |
| "Белпромстройбанк" | 270,0 | 275,0 | 153,0 | 155,0 | 11,5 | 12,0 |
| Курс "черн. рынка" | 310,0 | 330,0 | 165,0 | – | 12,0 | – |

ЭСЭ ПРА ЖАНОЧУЮ ДОЛЮ

# "КАБ ТОЛЬКІ СІЛЫ..."

"Пакуль нараджае жанчына і родзіць зямля – датуль мы вечныя", – казалі яшчэ нашы старажытныя продкі.

Жанчына дала назву цэлай эпосе ў развіцці чалавецтва – матрыярхат. З той пары шмат чаго здарылася з людзьмі, многа розных эпох прамінула, але роля жанчыны ў існаванні грамадства ніколькі не змяншылася.

Пасля апошняй вайны ў вёсцы Вострава Слонімскага раёна ўдовамі з дзецьмі на руках засталіся Марыя Карпач, Ганна Снітко, Ганна Радзівонік і Алена Юрык. Як для вёскі, дык, здаецца, і не многа – чатыры ўдавы. Але на той час, калі следам за вызваленнем ад немцаў наступалі калгасы, пазбаўляючы сялян сродкаў да існавання, выгадаваць адзінокай жанчыне двое-трое дзяцей было сапраўдным подзвігам... Дзеці выраслі, у кожнага склаўся свой лёс. А з чатырох пасляваенных удоў жывая яшчэ толькі Ганна Снітко.

Тое пакаленне жанчын, што нарадзілася перад вайной ці ў вайну (30-40-ыя гады) таксама не зазнала асаблівa шчаслівай долі. Яшчэ падлеткамі 14-16-ці гадоў яны ішлі працаваць за трудадні на калгасныя фермы і палі, ехалі "па вярбоўцы" зарабляць грошы на Украіну, у Расію. Вярталіся назад у калгас, выходзілі замуж і працавалі, каб пракарміць і апрануць сваіх дзяцей, ад цямна да цямна.

Доўга яшчэ было да так званага "развітога сацыялізму" 70-ых, калі праца калгаснікаў хоць крыху пачала аплочвацца. Ды не многія маці жадалі сваім дзецям той платы: гадавалі, падвучвалі і выпраўлялі ў гарады шукаць шчасця. Ад такога "зліцця вёскі з горадам" беларускія сёлы пусцелі, старэлі. Скончылася эра "развітога сацыялізму", затым – "перабудова", і цяпер у тым жа Востраве жыве ў шмат разоў болей удоваў, чым пасля вайны. Гэта такія калгасныя ветэранкі, як Соф'я Карпач, Соф'я Цупрык, Насця Пузыновіч, Марыя Лапко, Вольга Скурат, Валянціна Лязерка, Вера Чаркес, Ніна Давыдзік, Ганна Лабар, Таццяна Петручэня, Ніна Пішчукевіч, Таццяна Канановіч, Ніна і Таццяна Юрыкі і яшчэ многія, чые мужы ўжо даўно ці нядаўна пакінулі гэты свет. Большасць удоваў–пенсіянеркі. Ёсць такія, што пахавалі не толькі сваіх мужоў, але і дзяцей.

За рэдкім выключэннем, яны жывуць адныя ў хаце. Бо нават калі сын ці дачка засталіся ў роднай вёсцы, то даўно ўжо маюць сваю сям'ю, свой дом. Вядома, такім жанчынам жывецца лягчэй, чым тым, у каго дзеці "за светам": нашчадкі часцей заглядаюць у родную хату, унукі заходзяць. Па гаспадарцы ёсць каму дапамагчы, калі патрэбна.

А гаспадарку трымаюць да апошняй магчымасці, пакуль ужо не пакінуць астатнія сілы. Інакш проста немагчыма пражыць.



Фото IREX/ProMedia

– Пачыналі жыць – нічога не мелі. Потым лепш стала, нейкая капейка з'явілася. Але скарыстаць не паспелі – прапалі грошы. Цяпер добра, пенсію прыносяць, больш грошай, чым трактарыст зімой зарабляе. Але і на адну пенсію не пражывеш, калі ні каровы, ні свінні, ні курыцы не трымаеш... А так, каб толькі сілы, то можна жыць...

Такі вось каментарый свайго жыцця ў часе дала адна з астраўскіх удоваў... "Каб сілы...". Але сілы ўжо не тыя. Шчырыя руплівіцы на зямлі адпрацавалі сваё, без перабольшвання, паклалі жыццё на алтар хлебаробства.

І не іх віна, што ў вёсцы ўтварыўся такі "удовін матрыярхат".

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАВІНЫ

## Багаты ўлоў

**На мінулым тыдні рыбалоўная брыгада калгаса імя Чапаева Мастоўскага раёна падчас падводнага лову за адзін раз выцягнула невадам больш за тону рыбы.**

Гэта, дарэчы, не самы вялікі ўлоў. Як сказаў карэспандэнту "ГС" брыгадзір Іосіф Аліховік, у мінулым годзе зімою ў іх невад трапіла амаль тры тоны рыбы.

**Іван МІЛАСНІЦКІ**

## Святочныя агуркі

**Традыцыя частаваць мастаўчан на святы свежымі агуркамі захавалася яшчэ з часоў існавання Савецкага Саюза.**

Тады яшчэ на базе райаграпрамтэхнікі пабудавалі цяпліцы. Сёлета першая партыя агуркоў у гандлёвую сетку была пастаўлена да свята абаронца Айчыны. Як паведаміў дырэктар цяпліцы Антон Яркавец, будуць агуркі і на 8 Сакавіка.

**Антон МАКЕЙ**

# ГАРАДСКІ АСАБНЯК №11

**У Слоніме на вуліцы Чкалава ў глыбіні вулічнай забудовы знаходзіцца своеасаблівы гарадскі асабняк. Ён быў пабудаваны яшчэ ў 1923 годзе. У пасляваенны час там шмат гадоў знаходзілася інфекцыйная бальніца. Цяпер яе няма, некалькі гадоў таму яна пераехала ў новы будынак у Альбярцін. А ў старым гістарычным асабняку жывуць сем'і медыцынскіх работнікаў.**









Гарадскі асабняк нумаруецца як адзін дом №11. Ён прыстасаваны на 17 кватэр. У кожнай кватэры жывуць маладыя сем'і. У гутарцы з імі стала вядома, што маладым тут падабаецца, хаця ёсць шмат праблем. Але гэта дробязі, бо жыць на Чкалава значна лепш, чым на кватэры, за якую трэба плаціць вялікія грошы.

Амаль усе жыхары чкалаўскага асабняка чакаюць сваёй чаргі, каб атрымаць новую кватэру, таму адны сюды засяляюцца, другія – выязджаюць.

– Вы толькі пра нас дрэнна не пішыце, бо і гэтае жыллё забяруць, папярэдзілі карэспандэнтаў "ГС" хлопцы і дзяўчаты. Але што тут дрэннае можа быць, калі 17 сем'яў хоць такое-сякое жыллё, але маюць.

Лічым, што не для жылля павінны служыць гэтыя архітэктурныя пабудовы 20–х гадоў. Хацелася б, каб у іх размясціліся, напрыклад, літаратурны музей Слонімшчыны, этнаграфічны музей ці карцінная галерэя і г.д. Зямлі Слонімскай ёсць што паказаць і землякам, і гасцям. Але хто хоча гэтым сёння займацца, і дзе ўзяць грошы?

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

ФОТАРЭПАРТАЖ

# БЫВАЙ, ЗІМА!





*Шашлыкі пад лідскае піва карысталіся ў публікі вялікім попытам*

# БУДОЎЛЯ ДЛЯ НАЧАЛЬСТВА

**Сёлета зноў аднавіліся работы на будоўлі катэджаў для кіраўнікоў Мастоўскага раёна.**

Нагадаем, у снежні 1997 года на тэрыторыі былой нафтабазы, што была абнесена двухметровым жалезабетонным плотам, былі выдзелены чатыры пляцоўкі пад будаўніцтва. Участкі атрымалі генеральны дырэктар акцыянернага таварыства "Мастоўдрэў" Буры, старшыня райвыканкама Кісялёў, намеснік старшыні райвыканкама Кавалька і начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў Улан. Раней, згодна генеральнаму плану забудовы горада, весці там будаўніцтва не планавалася. Але месца прыдатнае, паколькі паблізу знаходзяцца ўсе камунікацыі: водаправод, газ, электрычнасць. Неўзабаве быў зняты жалезабетонны плот і ўзведзены сцены дамоў. Потым будоўля часова прыпынілася. Працу вяла толькі будаўніча-мантажная арганізацыя АТ "Мастоўдрэў" па ўзвядзенню катэджа для свайго кіраўніка (на фотаздымку самы апошні будынак). Паколькі сама будоўля ахутана вялікаю таямніцаю, то пра сапраўдную прычыну прыпынення будаўніцтва астатніх катэджаў даведацца цяжка. Праўда, некаторыя дасведчаныя асобы сцвярджаюць, што ішла дапрацоўка праекта. Усе ўзгадненні выконваў раённы аддзел архітэктуры амаль што бясплатна, бо заказчыкам выступае райвыканкам. Дарэчы, патрабаванні да пабудовы з боку заказчыка вялікія. Згодна са словамі аднаго з супрацоўнікаў аддзела архітэктуры, які папрасіў не называць яго імя, нават у гаражы мае быць мазаічная падлога. У вялікай таямніцы трымаецца таксама, хто з раённых кіраўнікоў у якім катэджы будзе жыць. Не ведаюць таго і архітэктары. Засакрэчаныя выканаўцы аб'екты ўзводзіць МПМК-155.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**



Фота Мікалая СУПРУНА

*Элітная будоўля ў Мастах*

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі............ 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 3 сакавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 559

АСАБІСТАЕ МЕРКАВАННЕ

# ПРЫНЦЫПОВАЕ РАЗЫХОДЖАННЕ

Вось прачытала артыкул Івана Сяргейчыка "Несуцешны боль душы", які быў надрукаваны 13 лютага 1999 года ў "Слонімскім весніку". Артыкул вельмі хвалюючы, бо прысвечаны памятнай і драматычнай падзеі — афганскай вайне. Я цалкам падзяляю ўсе думкі і погляды аўтара на тую крывавую трагедыю і несуцешна смуткую па бязвінных ахвярах афганскай вайны. Як і шаноўны І. Сяргейчык, я таксама лічу, што "кожны сумленны чалавек можа толькі падзякаваць "афганцам" за тое, што яны сумленна выканалі свой салдацкі абавязак і, вярнуўшыся да мірных будняў, вучаць моладзь любіць сваю Радзіму, свой народ". Але ў мяне ёсць прынцыповыя разыходжанні з аўтарам артыкула, якія тычацца ацэнкі літаратурнай творчасці вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч. Іван Сяргейчык піша: "Беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч у сваёй кнізе "Цынкавыя хлопчыкі" падала нас, удзельнікаў афганскай кампаніі, як забойцаў, наркаманаў, насільнікаў і г. д..."

Што сказаць пра гэта? Я чытала вышэйназваны твор і памятаю, як спачатку мяне ўразіла назва кнігі — "Цынкавыя хлопчыкі"... Яна падалася мне такой шчымліва-пранізлівай, па-мацярынску жаласліва-пяшчотнай, з акцэнтам на слове "хлопчыкі", што я ніколі не паверу ў тое, быццам бы пісьменніца ставіла сваёй мэтай ачарніць тых, хто ваяваў у Афганістане. Другая справа, што любая вайна — гэта заўсёды забойства, насілле, жорсткасць, бруд... Аб гэтым і апавядае ў сваіх творах С. Алексіевіч, мо якраз дзеля таго, каб вайна не прываблівала, як у баевіках на тэле- і кінаэкранах выдуманай рамантыкай, а шакіравала, ашаламляла сваёй жудаснай рэчаіснасцю, выклікала агіду і прыкрасць.

Паважаны Іван Сяргейчык у дадзеным выпадку выносіць адмоўны прысуд не толькі ўсім кнігам знакамітай пісьменніцы, але і дае характарыстыку маральным якасцям аўтаркі. Вось цытата: "Яна (С. Алексіевіч) жыве толькі ўласным задавальненнем, бо піша кніжкі-сенсацыі... Цяпер яна рыхтуе да выдання новую сенсацыю-твор пра тых, хто пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС. І ўсё гэта яна робіць не таму, што паважае і любіць сваіх герояў, а таму, відаць, што любіць славу і прагне яе..."

А я вось што думаю на гэты конт. Вядома, што С. Алексіевіч піша дакументальную прозу, у аснове якой ляжаць успаміны, сведчанні, аповеды мноства людзей, з якімі аўтару даводзілася сустракацца ў працэсе работы над сваімі творамі. Яна сустракаецца, размаўляе з чалавекам, і, слухаючы яго споведзь, суперажывае субяседніку ў яго горы, спачувае яго бядзе. Колькі чужога болю, смутку абрынулася падчас такіх вось размоў на пісьменніцу!.. Як жа трэба бязмежна любіць людзей, якое добрае, спагадлівае сэрца мець, каб адважыцца на такую тытанічную працу, якая забірае ўсе фізічныя і маральныя сілы! Чорствы, раўнадушны чалавек на такія душэўныя пакуты і перажыванні проста не здольны, ды і не згадзіўся б нават дзеля славы. Мне здаецца, што толькі дзякуючы Усявышняму, які дарue Святлане Алексіевіч моц і сілу, каб адолець розныя выпрабаванні, і напісаны яе выдатныя кнігі. Я пералічу некатырыя з іх, якія сама прачытала: "У вайны — не жаночы твар", "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Зачараваныя смерцю", "Чарнобыльская малітва"... Гэта сур'ёзная літаратура, якая прымушае нас задумацца, паразважаць, задаць сабе філасофскія пытанні: хто мы? куды ідзем? што нас чакае наперадзе? як нам захаваць сваё жыццё, душу? і г. д. Гуманістычныя, глыбока праўдзівыя кнігі Святланы Алексіевіч ужо даўно разышліся па ўсім свеце, атрымалі прэстыжныя літаратурныя прэміі. Я ганаруся нашай таленавітай пісьменніцай і хачу, каб на Беларусі як мага больш людзей ведала гэта Імя.

**Клаўдзія ШЧАРБАКОВА**

ДЗІКУНСТВА

# ЗВЫЧАЙНЫ ВАНДАЛІЗМ

Каля дзесятай школы Слоніма знаходзяцца былыя яўрэйскія могілкі. На пачатку 90-х гадоў там зрабілі арку з брамаю, паставілі мемарыяльныя гранітныя камяні з надпісамі ў памяць ахвяр фашызму. Вакол могілак была зроблена прыгожая агароджа. Але прайшло некалькі гадоў, і агароджу нехта амаль усю разабраў, а браму пагнуў...

Хацелася б напомніць слонімцам, што гэтыя могілкі — гісторыя нашага горада. Там пахаваны людзі яўрэйскай нацыянальнасці, якія сотні гадоў жылі на нашай зямлі. І вось такі вандалізм... Як не сумна, але такая сітуацыя адлюстроўвае рэальны стан культуры нашага грамадства...

Старажытныя яўрэйскія могілкі абавязкова будуць наведваць людзі, якія прыязджаюць з-за мяжы. Што яны скажуць? Што падумаюць пра нас? Я мяркую, што слонімская міліцыя знойдзе тых вандалаў, якія павінны будуць за свае сродкі адрамантаваць агароджу і браму. Каб не было нам сорамна не толькі перад гасцямі горада, але і за сябе.

**Вячаслаў СЦЯПУРА**



Фота Мікалая СУПРУНА

МАЛЮНАК З НАТУРЫ

# ЧАРГА

Лічу, што, бадай, кожнай другой нашай жанчыне даводзіцца свой вольны ад працы час бавіць у чэргах. Вось аднойчы і я стаяла ў даволі доўгай чарзе ў магазіне "Салют". Ну як тут не патраціць час, калі на продаж прывезлі ножкі ды рожкі. Чарга гаманіла, пыталася:

— А ці хопіць усім?

Прадаўшчыца, прыгожая маладжавая жанчына, завіхалася за прылаўкам і лагодна суцяшала:

— Хопіць на ўсіх гэтага дабра. Сёння многа прывезлі.

Старэнькую бабулю я заўважыла толькі тады, калі падышла яе чарга, і яна папрасіла ў прадаўшчыцы:

— Мне, дачушка, вось гэтыя дзве костачкі пакладзі...

Прадаўшчыца ветліва ўсміхнулася:

— Бяры, бабуля, заўтра ўжо не будзе.

Уся пакупка, якая налічвала дзве рабрынкі, каштавала 12 тыс. рублёў. Старэнькая доўга шукала кашалёк, расхінаючы адну за другой зусім паношаныя вопраткі. Ззаду гаманіла нецярплівая чарга, і спіна мая раз пораз адчувала добрыя штуршкі. Я бачыла, як бабуля расшпіліла свой маленькі кашалёк. Бліскучыя затворкі "пацалунчыкі", як некалі іх называлі, адкрыліся, паказваючы ўсярэдзіне адну адзіную купюру ў пяцьсот рублёў. Бабулька хуценька падала грошы.

— Гэта ж мала, — гучна сказала прадаўшчыца, мусіць, падумала, што старая не дачула.

— Тады прадайце мне адну костачку, — сумелася бабуля.

— За гэтыя грошы, бабка, і запалак не купіш, — засмяялася прадаўшчыца і ўзяла бабулін кашалёк, каб выбраць патрэбную суму грошай.

— Ну, бабуля, ты даеш! — загаманіла і пасмейвалася чарга. — Гэтыя грошы цяпер у кашалёк можна не класці.

Я не змагла вымавіць ні слова.

— Ужо ж хутка пенсію прынясуць, — сказала збянтэжаная жанчына і неяк бачком падалася на выхад.

А чарга па-ранейшаму нецярпліва ціснула на плечы. Я выйшла з натоўпу, шукаючы вачыма бабульку, але яе ўжо не было відаць...

З таго дня прайшло, мабыць, паўгода, але я кожны раз, наведваючы магазін, чамусьці ўсё прыглядаюся да людзей старэйшага ўзросту, шукаючы тую старэнькую жанчыну. Я не магу сабе дараваць і сёння за тое, што не купіла тады бабулі тыя дзве рабрынкі за 12 тыс. рублёў. У вачах стаіць яе па-дзіцячаму здзіўлены позірк, яе сагнутыя ад цяжкай працы кісці рук, якія сціскалі, як рэліквію, пусты кашалёк.

**Галіна СТРАЛКОЎСКАЯ, жыхарка Слоніма**

# ЯК РАМЕСНІКІ СЛОНІМСКУЮ МІЛІЦЫЮ ШТУРМАВАЛІ

## "Працоўныя рэзервы"

У другой палове 1944 года, пасля вяртання савецкай улады, у Слоніме ўтварылася школа ФЗН (фабрычна-завадскога навучання). Там навучалі падлеткаў розным спецыяльнасцям па скорачанай праграме (3-6 месяцаў). Яшчэ не скончылася вайна, і была патрэба ў "рабочай сіле". Адзін слонімец успамінае, што пасля таго, як ён запісаўся ў ФЗН, яго і яшчэ трыццаць юнакоў завезлі на Урал працаваць на ваенных заводах...

У пасляваенны час былі неабходны больш кваліфікацыйныя кадры. Таму і з'явілася ў Слоніме рамеснае вучылішча "Працоўных рэзерваў", якое займала будынак сённяшняга інтэрната медвучылішча. З усёй рэспублікі сюды збіралі хлопцаў, у тым ліку і з дзіцячых дамоў, дзяцей вайны, каб навучыць іх рабочым спецыяльнасцям. Два гады іх вучылі дзвюм спецыяльнасцям: сталяр і аўтаслесар. Сталяры праходзілі практыку на 16-ым лесапільным заводзе, а слесары — на аўтарамонтным. Станкоў тады было вельмі мала, таму ўсё рабілі ўручную...

Рамеснікі былі цалкам на дзяржзабеспячэнні. Іх апраналі ў спецыяльную форму: парадную і рабочую. У вучылішчы была "ваенная" дысцыпліна: пад'ём і адбой па камандзе. Праўда, слонімцы і іншагароднія, хто меў жаданне і магчымасці, маглі жыць дома ці здымаць пакой, але абавязкова павінны былі з'яўляцца раніцай на пад'ём.

Пасля заканчэння вучобы было размеркаванне на працу. Некаторых пакідалі ў Слоніме, іншых адпраўлялі па ўсёй Беларусі і нават у Расію. Два гады рамеснікі павінны былі адпрацаваць па месцы размеркавання, і ніхто не меў права іх звольніць у гэты перыяд. Нават у пашпарце ставіўся штамп — "Працоўныя рэзервы".

## Час каменданта

Па словах былых рамеснікаў, яшчэ ў 1948-50 гадах у іх пачаліся сутычкі з "гарадскімі" падлеткамі. Напачатку рамеснікі не супраціўляліся, калі "гарадскія" прыходзілі ў інтэрнат і "чысцілі" іх тумбачкі. "Мы сядзелі ціха на сваіх ложках, склаўшы рукі, — успамінае адзін з выпускнікоў вучылішча, — а пасля пачалі даваць здачы". Першы раз "гарадскіх" пабілі ў інтэрнаце, а пасля ўжо бойкі адбываліся ў горадзе, у асноўным на сённяшняй плошчы Леніна, каля помніка Сталіну. У ход ішлі камяні, палкі, жалезныя ланцугі...

У вучылішчы было шмат падлеткаў з дзіцячых дамоў. Кіраваць імі было цяжка. Таму начальства прыняло беспрэцэдэнтнае рашэнне — на пасаду каменданта інтэрната быў прызначаны былы выпускнік гэтай навучальнай установы 20-гадовы Аляксандр К. Ён быў добрым спартсменам, меў пэўны аўтарытэт сярод моладзі. У Слоніме яго ўсе баяліся (быў толькі адзін чалавек, які не пабаяўся і яго прылюдна пабіў). Таму Аляксандра прызначылі на гэтую пасаду, каб ён навёў парадак. І, сапраўды, ён хутка ўзяў сітуацыю ў інтэрнаце пад свой кантроль.

У пасляваенны час на Беларусі дзейнічала "чорная кошка". Пад гэтай назвай хаваліся і крымінальнікі, і антысавецкія падпольшчыкі. Хутка "чорная кошка" стала сімвалам любога акту супраціўлення або супрацьдзеяння савецкай уладзе. Слонімскія рамеснікі нейкі час таксама называлі сваю групоўку "чорнай кошкай". А 75-гадовы слонімец Рыгор З. упэўнены, што менавіта камендант інтэрната працягваў "традыцыі" вядомай у той час "чорнай кошкі".



*Помнік Сталіну ў Слоніме*

69-гадовы Уладзімір Ш. успамінае, што нярэдка раніцай міліцыянеры выцiралі са сцен дамоў намаляваную невядомымі чорную кошку...

*(Працяг на 8 стр.)*



*Слонімскія рамеснікі. 1948г.*

ПРОШУ СЛОВА

# ДОСТАТОЧНО ОГЛЯНУТЬСЯ НАЗАД...

В этом году заканчивается пятилетний срок президентских полномочий А.Г.Лукашенко, избранного на этот пост в июле 1994 года. Сегодняшняя реальность убеждает в том, что как мы выбираем, так и живем. Достаточно оглянуться назад и проанализировать деятельность главы государства за прошедшие пять лет, чтобы серьезно задуматься над тем, кому отдать предпочтение на следующих президентских выборах.

О сегодняшней экономической обстановке в стране можно говорить много и долго, но тот факт, что жизненный уровень белорусского народа — почти самый низкий в Европе, а средняя пенсия и средняя зарплата (20 долларов по рыночному курсу) — самые низкие в странах СНГ, свидетельствуют о многом. Люди, конечно, поругивают власти на кухне, в очередях, но мужественно терпят. А тем временем страна подошла к такой черте, когда инфляция обесценивает всякий труд, в том числе и в частном секторе. По официальной информации, от предпринимательской деятельности отказались уже около 12% предпринимателей, еще 60% готовятся сворачивать свой бизнес. Ну а тем, кто еще пытается сохранить остатки своего дела, постоянно приходится сталкиваться с трудностями валютно-денежных расчетов из-за несоответствия курса белорусского рубля к реальному курсу доллара, с всевозможными запретами и ограничениями. Словом, последние события вряд ли повысят рейтинг президента. И даже стремление Александра Лукашенко к единению Беларуси с Россией, является, по мнению многих людей, близких к власти, ни чем иным, как методом избежания своей политической смерти.

**Ольга ПАНСЕВИЧ**

